// БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 10 (173)
кастрычнік 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

# «СТАРЫ ОЛЬСА» АДКРЫЎ ДЛЯ АМЕРЫКІ СЯРЭДНЯВЕЧНУЮ МУЗЫКУ

Канцэртнае турнэ па Злучаных штатах Амерыкі гурта "Стары Ольса" можна параўнаць з гастролямі па ЗША ансамбля "Песняры" ў 1976 годзе.



На сяброўскай сустрэчы музыканты адказалі на пытанні, падзякавалі гукарэжысёру, дызайнеру і валанцёрам, якія дапамаглі збіраць сродкі на альбом і на тур, а пасля запрасілі ўсіх на прэзентацыю альбома, якая адбудзецца 20 лістапада ў ДК МАЗ.

Музыкі наведалі 20 штатаў, адыгралі 23 вялікія канцэрты ў гарадах і зрабілі 35 выступаў на фестывалях і ў клубах. Частка музычнага матэрыялу складалася з кавераў у медыявальным стылі на сусветна вядомыя рок-хіты з альбома "Medieval Classic Rock", частка – з аўтарскіх твораў і апрацовак старажытных беларускіх мелодый. Альбом быў выдадзены амерыканскай фірмай "Cool Hat Records LLS".

"У Амерыцы, – зазначыў З.Сасноўскі, – музыкі, падобнай да нашай, мала. Толькі аднойчы мы сустрэлі гурт, удзельнікі якога на старажытных інструментах гралі сярэднявечныя мелодыі. На рэнесансных фэстах там граюць на гітарах, скрыпках, шатландскіх і ірландскіх народных інструментах. Першай рэакцыяй амерыканцаў на нашу музыку было здзіўленне. А ўжо пасля ім падабалася, і яны падыходзілі на нас, каб распытаць пра інструменты і музыку, даведацца, адкуль мы прыехалі".

На пытанне пра сустрэчы з амерыканскімі беларусамі адказаў лютніст Ілля Кубліцкі: "Беларусаў на канцэртах было адразу бачна, бо ўсе прыходзілі на нашыя выступы ў вышыванках, са стужачкамі, з беларускімі значкамі. На канцэртах у Нью-Ёрку і Сан-Францыска людзі больш танчылі. Мы разам з публікай развучвалі народныя і сярэднявечныя танцы. Беларусы былі задаволеныя тым, што навучыліся сваім танцам, а амерыканцы – што спрычыніліся да нечага незвычайнага".

"Нам давялося, – успамінае далей Ілля, – некалькі дзён пажыць у амерыканскай сям'і. Яны даведаліся, што нацыянальная страва ў нас – дранікі. Наш бубнач і перкусіяніст, а па сумяшчальніцтве кухар Сяргей Тапчэўскі прыгатаваў іх, гаспадары знялі працэс на відэа і, думаем, цяпер частуюць імі гасцей. Мы атрымліваем лісты ад амерыканцаў. Нам вельмі прыемна, што людзі з ЗША, хоць і з дапамогай гуглаперакладчыка, але пішуць нам па-беларуску, разумеюць, што мы не Расія, у нас свая мова і культура".

Пра цікавы выпадак распавёў вакаліст і гусляр Алесь Чумакоў: "У Мэрылэндзе, у лютэранскай царкве, пастар, этнічны ірландзец, падарыў мне ірландскія косці – інструмент 13 стагоддзя. І дадаў: "Вучыся, будзем разам граць сэйшны!" На канцэрце ў гэтай царкве ён зайграў з намі "Ave Maria!". Перад канцэртам мы запыталі, што можна граць у царкве. Ён адказаў, што амерыканскія цэрквы не маюць абмежаванняў, і калі служба скончыцца, можна выконваць нават піўныя песні. У нашым рэпертуары яму асабліва падабалася "Highway To Hell" гурта "AC/DC".

Алесю таксама спадабалася, як рэагуе на музыку амерыканская публіка – апладысменты пасля кожнага сола, складанай ноты. "Разумееш, што публіка слухае, разумее, што адбываецца на сцэне".

Флейтыстка Марыя Шарый адзначыла, што на рэнесансных фестывалях у ЗША наведнікі, хвалілі строі і прасілі дазволу сфатаграфаваць іх, распытвалі, як пашыць такое. У адрозненне ад беларускіх фэстаў, там людзі апранаюцца ў фэнтэзійным духу. Але пры ўсім пры гэтым, такія фэсты – надзвычай маштабныя, маюць шмат сцэн, на якіх адначасова адбываюцца канцэрты, выступы фокуснікаў ці выканаўцаў размоўнага жанру stand-up.

"Хочацца зноў акунуцца ў фестывальную віхуру, – зазначыла Марыя, – але мы вельмі стаміліся. Трэба набрацца сіл, каб вярнуцца да ажыццяўлення планаў. Цяпер ёсць прапановы паехаць з канцэрамі ў Кітай, маем запрашэнні на фестывалі – на Сіцылію, у Партугалію, на Азорскія выспы. Пры гэткім шчыльным графіку паездак мы плануем займацца запісам альбома – матэрыял ужо падрыхтаваны".

**Паводле Анатоля Мяльгуя, "Новы Час"**

## У НУМАРЫ:

### Янка Запруднік: Падарожжа ў Беларусь

"Мы з жонкай наведвалі Беларусь у 2013 годзе. Пасля трох гадоў цікава было паглядзець, што змянілася ў краіне. А тут падаспеў выхад у Мінску пад маё 90-годдзе кнігі Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча "Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны"...

**Працяг на стар. 2**

### Пётра Мурзёнак: Будаўніцтва нацый усё яшчэ адбываецца

У Атаве (Канада) адбылася прэзентацыя кнігі "Шляхі да беларускай нацыі" Пятра Мурзёнка, старшыні Атаўскага аддзялення Згуртавання беларусаў Канады.

**Працяг на стар. 6**

### Беларусы Малдовы на "Бацькаўшчыне"

На пачатку ліпеня сядзібу ЗБС "Бацькаўшчына" наведалі прадстаўнікі беларусаў Малдовы: старшыня Праўлення Беларускага культурнага руху Малдовы Ганна Мазур і старшыня Міжнароднага таварыства сяброўства і супрацоўніцтва "Малдова–Беларусь" і Асацыяцыі беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь" Генадзь Зяньковіч.

**Працяг на стар. 7**

### ВІНШУЕМ МІЛАНУ МІХАЛЕВІЧ!

29 лістапада юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» Мілана Міхалевіч (Беларусь). Сардэчна віншуем шаноўную спадарыню Мілану з юбілеем і зычым моцнага здароўя, шчасця, радасці і поспеху ва ўсіх справах!

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

**навіны "Будзьма!"**

## ПЯЦІСОТГОДНАСЦЬ: КАРАТКЕВІЧ ПЕРАМОГ СКАРЫНУ?

Напярэдадні юбілею – 500-годдзя беларускага кнігадруку – кампанія "Будзьма беларусамі!" разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў вырашылі скласці спіс самых важных кніг, якія паўплыўвалі на развіццё нас як нацыі і нашай дзяржаўнасці. Да ўдзелу былі запрошаныя як эксперты, так і шырокае кола чытачоў. Народнае галасаванне цягнулася 10 дзён і складалася з некалькіх этапаў. Спачатку чытачам партала было прапанавана скласці спіс найбольш важных кніг, а пасля адбылася галасаванка па гэтым спісе. Такім чынам склаўся ТОП-20 кніг, што перамаглі ў выніку народнага галасавання:

1. Уладзімір Караткевіч "Каласы пад сярпом тваім"
2. Францыск Скарына, Біблія
3. Максім Багдановіч "Вянок"
4. Васіль Быкаў "Знак бяды"
5. Якуб Колас "Новая зямля"
6. Мікола Гусоўскі "Песня пра зубра"
7. Іван Мележ "Людзі на балоце"
8. Ян Баршчэўскі "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях"
9. Статуты Вялікага Княства Літоўскага
10. Адам Міцкевіч "Пан Тадэвуш"
11. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч "Пінская шляхта"
12. Францішак Багушэвіч "Дудка беларуская"
13. Янка Купала "Жалейка"
14. Браніслаў Тарашкевіч "Беларуская граматыка для школ"
15. Янка Маўр "Палескія рабінзоны"
16. Рыгор Барадулін "Ксты"
17. Уладзімір Караткевіч "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"
18. Сымон Будны "Катэхізіс"
19. Андрэй Мрый "Запіскі Самсона Самасуя"
20. Кузьма Чорны "Пошукі будучыні"

**"Будзьма беларусамі!"**

**лекцыя**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ: УЗАЕМАЎПЛЫВЫ ПРАЦЭСАЎ У ДЫЯСПАРЫ І БЕЛАРУСІ

Тэкст лекцыі, чытанай кіраўніцай МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» на 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Атаве (Канада), можна чытаць на сайце "Бацькаўшчыны": http://zbsb.org/node/10901

**zbsb.org**

**запісы**

# Янка Запруднік: ПАДАРОЖЖА

Мы з жонкай наведвалі Беларусь у 2013 годзе. Пасля трох гадоў цікава было паглядзець, што змянілася ў краіне. А тут падаспеў выхад у Мінску пад маё 90-годдзе кнігі Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча "Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны". Дык ужо нельга было адмовіцца ад запросінаў узяць удзел у прэзентацы. Гэтак вось мы з Надзяй правялі ў Беларусі дваццаць пяць чэрвеньска-ліпеньскіх дзён.



### "Белавія". Мінскі аэрапорт

Мінскі аэрапорт пашырыўся, набраў прыстойнага выгляду. Пра гэта сведчаць колькасць падарожнікаў, пано "адлёты-прылёты", крамы, наяўнасць банкаўскіх паслугаў. Пропуск праз кантроль палагадней: валізак не трэба было адчыняць, прывезеных даляраў не пералічвалі.

У беларускіх сродках інфармацыі чутныя цяпер галасы аб наданні нацыянальнаму аэрапорту імя на ўзор пашыранай у свеце практыкі называць вароты краіны імем выдатнай постаці з нацыянальнай гісторыі. Пакуль што была гаворка пра першадрукара Францыска Скарыну.

### У Мінску

Горад расце новымі будынкамі, абнаўляюцца старыя. Першую ноч мы пераначавалі ў гатэлі "Мінск", каб праз гэта (як мы наіўна думалі) запасціся пячаткай аб нашым перабыванні ў Беларусі. Тры гады таму ён быў тыпова савецкім. Цяпер, пасля "еўрарамонту", выглядае зусім прыстойна. Кідаюцца ў вочы вялікія білборды з беларускімі тэкстамі.

### Гутаркі з таксістамі

Таксовачны сэрвіс у горадзе наладжаны выдатна. Гаспадар нашай нанятай кватэры сам таксіст. Ён вытлумачыў нам, чаму менскія таксісты "маўчуны". Калі сталіца некалькі гадоў таму рыхтавалася да хакейнага міжнароднага чэмпіянату, на таксістаў была "спушчана" інструкцыя не ўваходзіць з замежнікамі ў гутаркі на палітычныя, рэлігійныя ды іншыя "далікатныя" тэмы. Таксісты трымаюцца яе па сённяшні дзень. Найлепшым ключыкам было пытанне, якое задавала Надзя: "Ці Вы мінчанін?" У адказ на яго выказваліся ахвотна й пачыналася гутарка. Наша беларуская мова не была перашкодай і не выклікала адмоўнай рэакцыі, а ў некаторых выпадках і таксіст пераключаўся на яе.

### На чытаньнях Гарэцкіх і ў БДАМЛіМ

Наш побыт быў шчыльна запоўнены сустрэчамі з афіцыйнымі асобамі й журналістамі. Мы былі запрошаны на Гарэцкія чытанні, якія адбываліся ў доме колішняга старшыні Саюзу пісьменнікаў БССР Петруся Броўкі. Я скарыстаў з нагоды перадаць прывітанне сям'і спадара Радзіма Гарэцкага і аўдыторыі ад імя Вітаўта Кіпеля, дырэктара БІНІМа. На заканчэчнне свайго слова я сказаў таксама: "Усім вам найлепшыя пажаданні ад нас са Злучаных Штатаў, ад беларускай грамады горада Саўт-Рывера. Там мы молімся ў царкве святой Еўфрасінні Полацкай за ўсіх нас, за нашу будучыню, за Беларусь, да раскопвання гісторыі якой заклікаў Максім Гарэцкі. Як сказаў тут спадар Генрык Далідовіч, Гарэцкі думаў пра будучыню. Мы ўсе думаем пра будучыню. Спадзяюся, што мы да гэтай лепшай будучыні дойдзем дзякуючы раскопвальнікам мінуўшчыны".

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва – установа, дзе перахоўваюцца архіўныя фонды шматвекавой гісторыі Беларусі. Збіранне апошнім часам актывізавалася, створаны асобны аддзел дыяспарнай дакументацыі, які ачоліла Наталля Гардзіенка, аўтарка некалькіх манаграфіяў пра замежных беларусаў. Спадарыня Ганна Запартыка, дырэктарка музею-архіва, запрасіла нас на сустрэчу з працаўнікамі ейнай установы. Гасціннае спатканне сталася добрай нагодай для дзелавой гутаркі аб супрацоўніцтве з замежнымі суродзічамі. У гасцявую кнігу я ўпісаўся на памяць: "Шаноўным працаўнікам БДАМЛіМа, будаўнікам фундаменту беларускай гістарычнай навукі з удзячнасцю за вялікую працу".

### Баранавічы–Мір–Жыткавічы

Абнаўленне і рост забудоваў не паўсюдная з'ява ў краіне. Гэта заўважаеш на правінцыі. У Баранавічах непадмецены парк красамоўна сведчыць пра нястачы ў гарадскім бюджэце. Яшчэ выразней пра эканамічныя цяжкасці краіны сведчыць немагчымасць людзей знайсці працу. А шмат якім пенсіянерам нельга пражыць на пенсіі нават на мінімальным узроўні.

Мястэчка Мір маецца крыху лепш за Баранавічы дзякуючы свайму маляўнічаму замку, від якога ўпрыгожвае сувеніры, паштоўкі, альбомы, а таксама прыцягвае турыстаў. За тры прамінулыя гады тут перабудавалі стары будынак былой габрэйскай грамады, некалі савецкай школы, у гатэльны люкс-комплекс.

У Жыткавічах, як і ў Баранавічах, з гарадскім бюджэтам справы дрэнь, нават адзіную ў горадзе лазню давялося зачыніць. З працай таксама не разгонішся, калі знойдзеш за тры мільёны, дык будзь рады. На дзяржаву не разлічвай, бо яна сама ў ападаткоўванні дайшла да абсурду. Пашыраюцца чуткі пра ападаткоўванне не толькі хатняе жывёлы, але і фруктовых дрэваў (!!!). Несамавітым крокам ураду сталася цяпер абкладанне падаткам так званых дармаедаў, гэта значыць людзей, якія без працы і з-за гэтага не плацяць падаткаў.

Разам з тым і ў Жыткавічах змены да лепшага адбываюцца. Стараннямі мясцовага святара а. Генадзя Хаткевіча збудавана цудоўная царква з акустыкай, якой могуць пазайздросціць шмат большыя святыні. У крамах спраўна працуе абслугоўванне з ужываннем крэдытных картачак.

### "Экалагічны турызм"

Па цэлай Беларусі ідзе разбудоўванне турыстычнай інфарструктуры. Разлікі робяцца на рост як нутранога турызму, гэтак і замежнага. У Нацыянальны парк "Прыпяцкі", што каля вёскі Лясковічы Жыткавіцкага раёна, запрашаюць на "экалагічны турызм", інакш кажучы – на паляванне. Людзі пагаворваюць, што вялікая частка мясцовага багацця, магутныя дубы, былі паспілоўваныя і прададзеныя замежнікам.

### Дзякавічы

Наведалі мы і Надзіну "малую радзіму", цэнтр сельсавета, дзе ў доме культуры праводзіцца мастацкая самадзейнасць, працуе народны хор, добра ўкамплектаваная бібліятэка, наладжаны этнаграфічны музейчык. Сустрэлі зямлячку з песнямі. Паказалі прасторны будынак, падзякавалі за атрыманы падарунак – камп'ютар і галоснікі, вельмі прыдатныя ім для мастацка-музычных

## ЛЮБОЎ АДАСКЕВІЧ УГАНАРАВАНАЯ МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Віншуем сябра Вялікай Рады, старшыню рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў Томскай вобласці" Любоў Адаскевіч з уганараваннем дзяржаўнай узнагародай Беларусі – медалём Францыска Скарыны за значны асабісты ўклад у папулярызацыю беларускага нацыянальнага мастацтва, умацаванне культурных і навуковых сувязей паміж Беларуссю і Расіяй.



Жадаем поспехаў ва ўсіх справах, натхнення і імпэту, аптымізму і новых дасягненняў у грамадскай дзейнасці на карысць пашырэння беларушчыны!

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў лістападзе: Генадзя Вінярскага (Беларусь), Вячаслава Логіна (Канада), Міколу Нікалаева (Расія).

Жадаем шаноўным імяніннікам добрага здароўя, дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця, поспехаў у працы.

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

# Ў БЕЛАРУСЬ

праграмаў – пачаставалі гарбаткай, узнагародзілі пахвальнай граматай.

### Салігорск

У Салігорску нас чакала сям'я, якая прывозіла ў Амерыку свайго сынка Ягорку на лячэнне ад раку – мы ім памагалі транспартам і іншымі паслугамі. Цікава было пабачыцца з імі, перадаць Ягорку прывітанне ад саўтрыверскіх прыхаджанак.

Салігорск адразу кідаецца ў вочы сваімі чысцейшымі вуліцамі, навейшымі аўтамашынамі, акуратнейшымі газонамі і лепш апранутымі жыхарамі.

Сустрэча з нашымі сябрамі прайшла вельмі прыемна. Радасна было бачыць бадзёрага Ягорку, які паспяхова пачаў сваю "кар'еру" школьніка ды за якім блізка ідзе і ягоны брацік Данілка. Дай ім, Божа, здароўя.

### Дзень вышыванкі – замацоўванне трэнду

У суботу 2 ліпеня мы выбраліся пахадзіць па цэнтры сталіцы і трапілі на ўрачыстасць Дня вышыванкі. Арганізаваная яна была ад імя вышэйшых уладаў, з удзелам міністра культуры, кіраўніка выканкаму горада і кіраўніка афіцыйнай арганізацыі моладзі, а таксама з удзелам школьнікаў і абласных дэлегацыяў, апранутых у народныя строі. Свята адбывалася на Нямізе каля Палаца спорту. Увесь пляц быў застаўлены палаткамі й сталамі з сувенірамі й народнымі вырабамі. Поўна народу. Бальшыня ў белай вопратцы, упрыгожанай вышыванкамі. З галоснікаў уперамешку з беларускамоўнымі анонсамі гучалі народныя й патрыятычныя песні. Па праспекце прайшлі парады моладзі са сцягамі і паветранымі шарыкамі, гімнастычных камандаў са сваімі перформансамі ды абласных дэлегацыяў у вышываных строях. Удзельнікі неслі вялікае пано, упрыгожанае народнымі ўзорамі з розных мясцін Беларусі.

Перад пачаткам канцэрту на пастаўленай на пляцы сцэне афіцыйныя прамоўцы па-беларуску заклікалі паглыбляць азнаямленне з нацыянальнай культурай, шанаваць і перахоўваць традыцыі, замацоўваць "духоўную самабытнасць" (тэрміналагічная падмена паняцця "нацыянальная свядомасць").

### Лыжка дзёгцю

Візу нам выдалі ў консулаце РБ у Нью-Ёрку. Але мець візу – гэта яшчэ не значыць, што можна не думаць пра іншыя фармальнасці. На сайце ні словам не згадвалася патрэба рэгістрацыі, і ўжо на сёмы дзень мы сталіся парушальнікамі закона. Давялося ісці разам з гаспадаром нашай мінскай кватэры ў паліцыйную кантору. Вось там і чакала нас лыжка дзёгцю.

Маладзіца ў пагонах, глянуўшы на пашпарт, адразу ж выбухнула: "Вы были в Житковичах... Не зарегистрировались... Вы нарушили закон... Уходите!.." Надзя: "Ухадзіце" куды?" – "В коридор!" Я, абураны крыкам маладзіцы, кажу: "Мы хочам пагаварыць з вашым начальнікам". Яна: "Начальник на заседании". На маю заўвагу на самым пачатку гутаркі, што мы нічога не ведалі пра закон аб рэгістрацыі, яна адсекла: "Надо читать!" – "Чытаць што – кодэкс Рэспублікі Беларусь? Ваш консульскі сайт я прачытаў, там пра рэгістрацыю – ні слова".

Выявілася таксама, што нам трэба мець з сабой пасведчанне аб медычнай страхоўцы (якое цяпер перад ад'ездам трэба набываць ад амерыканскай кампаніі). А мы яго пры сабе не мелі. Нашы пашпарты затрымалі і сказалі з'явіцца назаўтра раніцай. З'явіліся. Маўклівы падпалкоўнік доўга ўводзіў у камп'ютар дадзеныя з нашых пашпартоў і складаў пратакол. З яго мы даведаліся, што парушылі "часть третью статьи 39 закона Республики Беларусь от 4 января 2010 г. №105-3 "О правовом положении иностранных граждан и лиц без гражданства в Республике Беларусь".

Нас аштрафавалі па дваццаць даляраў ад асобы, а гаспадара кватэры – у пяцьдзясят даляраў. Штрафы трэба было заплаціць (ізноў чарга!) у банку.

Едучы рэгістравацца, я прыхапіў з сабой свежавыдадзеную кніжку "Кантакты" на выпадак, калі б абставіны дазвалялі падарыць яе падпалкоўніку. Ён здаўся нам чалавекам памяркоўным, які спакойна выконваў свой чыноўніцкі абавязак. На лістку напісаў: "На памяць ад дзевяностагадовага амерыканскага турыста, з пенсіі якога быў папоўнены бюджэт РБ (штраф за няведанне закону аб рэгістрацыі). – Менск, 1 ліпеня 2016 г. – Янка Запруднік", – і паклаў яго каля задняй вокладкі.

Пасля ўсяе працэдуры палкоўнік як бы адпружыўся ўвесь, стаўся даступным на спакойную гутарку, зазначыў, што законаў прымаецца шмат і не ўсе людзі азнаёмленыя з імі. Мы пайшлі назад да маладзіцы па пашпарты, радыя, што скончылася нарэшце ўся гэтая прыкрая валакіта. Таксама запрапанавалі сувенір у форме кніжкі пра нашы фестывалі і выстаўкі ў Амерыцы. Маладзіца выявілася, як і ейны начальнік, нармальнай асобай, здольнай на ўсмешку і часінку прыватнай гутаркі. Усё вышэй сказанае ўздымае – каторы раз ужо! – пытанне вытокаў нервознай шорсткасці і хамства з боку ўрадаўцаў у дачыненні да просьбітаў. У інтарэсах краіны чыноўніцкі этыкет павінен быць адным з прыярытэтаў. Каб традыцыйная гасціннасць народа была навідавоку, каб пашыраная фраза "Беларусь – гэта Еўропа" пацвярджалася як мага больш еўрапейскім зместам.

### ЗБС "Бацькаўшчына" – рост ролі

Нельга было не заглянуць і павітацца з працаўнікамі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", пагатоў, што мы не былі яшчэ ў іхным змененым памяшканні. Заснаванае чвэрць стагоддзя таму, згуртаванне выявіла сваю важнасць ужо тым, што праіснавала без ніякай дапамогі з боку дзяржавы (за выняткам самога пачатку існавання). Апошнімі гадамі "Бацькаўшчына" праводзіць сваю шматбаковую патрыятычна-культурную дзейнасць на энтузіязме кіраўнікоў арганізацыі Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай ды невялікага кола грамадскіх актывістаў.

Падняўшыся ў цесным ліфце на апошні паверх будынку на вул. Чорнага, 31, мы жахнуліся ад цеснаты, у якой тут у некалькіх пакоях працуюць кіраўнікі і чальцы "Бацькаўшчыны", Саюза беларускіх пісьменнікаў, праграмы "Будзьма" ды іншых грамадскіх праектаў. Ім належыцца не толькі спачуванне і падзяка, але найперш фінансавая дапамога дзеля матэрыяльнага аблягчэння. Дый маральнага таксама. Трэба спадзявацца, што дзяржава зразумее, што цяпер, калі колькасць замежных беларусаў на Захадзе значна вырасла і далей расце, гэтак жа расце і патэнцыял "Бацькаўшчыны" ўплываць на павелічэнне замежнага турызму ў Беларусь, у чым урад рэспублікі вельмі зацікаўлены.

### Прэзентацыя "Кантактаў": зваротная любоў

Кніга "Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны (Да 90-годдзя Янкі Запрудніка)" выйшла з друку ў выдавецтве "Кнігазбор" пад нумарам 30 у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". Прэзентацыя яе адбылася 28 чэрвеня ў перапоўненай слухачамі залі Пушкінскай бібліятэкі. Кіраўніцтва ЗБС "Бацькаўшчына" папрацавала вельмі эфектыўна. Такога наплыву зацікаўленых мы з Надзяй не спадзяваліся. Якая радасць сустрэчы! Гэтулькі сваякоў, сяброў, знаёмых і незнаёмых, у тым ліку студэнцкай моладзі, з мікрафонамі і фотаапаратамі: вітанні-віншаванні, прамовы, аўтографы...

Усё гэта незапярэчна засведчыла, што Бацькаўшчына, калі любіш яе і застаешся на ейнай арбіце, вяртае тваю любоў памножанай.

**Янка Запруднік, верасень 2016 г.**

**Надрукавана ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

гутарка

# ЮРАСЬ ЗЯНКОВІЧ НОСІЦЬ ЗБРОЮ І ХОЧА БЫЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ БЕЛАРУСІ

Беларускі юрыст Юрась Зянковіч эміграваў у ЗША 9 гадоў таму. Цяпер валодае юрыдычнай фірмай.



**– Вы не былі ў Беларусі 9 гадоў. Заўважылі нейкія змены?**

– Нашыя людзі скардзяцца на тое, як усё цяжка, а пры гэтым ва ўсіх ёсць кватэры, машыны, усе ездзяць у адпачынак. Беларусы жывуць зусім не кепска.

**– У параўнанні з кім?**

– Я канстатую агулам – у Беларусі някепскі ўзровень жыцця. Зразумела, кожны хоча жыць яшчэ лепш, але паводле майго назірання, у Беларусі сітуацыя някепская, а дзесьці нават добрая.

**– Маецца на ўвазе дабрабыт людзей?**

– Не толькі дабрабыт. Людзі сталі больш разняволеныя, павялічылася прастора асабістай свабоды. Гэта датычыць нават і палітычнай сферы – даўно ў парламенце не было двух дэпутатаў ад апазіцыі.

**– Некалькі месяцаў таму вы заяўлялі аб прэзідэнцкіх амбіцыях. Гэты намер застаецца?**

– Застаецца. На сёння я не бачу іншага чалавека, які меў бы ідэі, як развіваць Беларусь у наступныя 20–30 гадоў. Для мяне перспектыва вылучэння на пасаду прэзідэнта – гэта хутчэй праблема, чым нейкая магчымасць. Гады майго прэзідэнцтва будуць выкінутыя з майго асабістага жыцця. Але ў нас з жонкай ёсць дамоўленасць, колькі часу я магу на гэта выдаткаваць.

**– Уявім, што жонка дазволіла вам балатавацца. Што будзеце рабіць?**

– Трэба адбудоўваць рэгіянальныя структуры палітычных партый. Я зразумеў, што выбарчую структуру трэба ладзіць з нуля. Ніводзін рух сёння не ў стане правесці выбарчую кампанію. Я пайду ў кампанію толькі з рэальнай мэтай перамагаць, прынцып "галоўнае не перамога, а ўдзел" для мяне непрымальны.

**– Вы лічыце, што апазіцыі ў Беларусі фактычна няма. Разам з тым вы сябра Партыі БНФ, яна вылучала вас на выбарах...**

– Партыя БНФ мае моцны ідэалагічны падмурак. Але няма структуры, фінансаў, людзі разбегліся, не плацяць партыйныя складкі. Кіраўніцтва ездзіць па іншых краінах, каб забяспечыць арэнду сядзібы і функцыянаванне апарата. Але тады партыя становіцца несамастойнай, раз яна існуе за кошт іншых дзяржаў.

**– Чаму вы вырашылі жыць у штаце Каларада, а не на Манхэтане?**

– Нам падабаецца стыль жыцця на Сярэднім Захадзе, рахманасць, прастора, сямейныя каштоўнасці, свабоднае валоданне зброяй.

**– У вас ёсць зброя?**

– Мы прайшлі курсы і неўзабаве атрымаем права бараніць сваю незалежнасць і жыццё ўласнымі сіламі. Мне гэта моцна імпануе, таму што так было і ў Рэчы Паспалітай – свабоднымі лічыліся толькі тыя людзі, якія носяць зброю.

**– Ці заангажаваныя вы ў жыццё беларускай дыяспары?**

– Безумоўна. Напрыклад, мы з жонкай нядаўна арганізоўвалі канцэрт гурту "Стары Ольса" ў Дэнверы. Амерыканцы былі ў захапленні, а з беларусаў мала хто прыйшоў. Такая сітуацыя з беларускай дыяспарай назіраецца ва ўсёй Амерыцы. Але ёсць і выключэнні – вельмі моцная дыяспара ў Лос-Анджэлесе, у Нью-Ёрку.

**– З год таму вы з жонкай спрабавалі сарваць акцыю расейскіх актывістаў, якія раздавалі георгіеўскія стужкі ў Нью-Ёрку...**

– У Амерыцы не так шмат расейцаў, каб яны маглі на нешта ўплываць. Але часам ствараюць карцінку для прапагандысцкіх каналаў інфармацыі. Тое, што мы ўмяшаліся, было спробай контртролінгу. Жалю вартыя былі людзі, якія раздавалі георгіеўскія стужкі. Гэта людзі, якія не знайшлі сябе ў Амерыцы, не вывучылі ангельскую мову, не здабылі прафесіі, зарабляюць капейкі. Такія людзі ходзяць і крычаць, што Пуцін – добры. І разам з тым вяртацца ў Расею не хочуць.

**КМ, "Радыё Свабода"**

**Надрукавана ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

навіны "Бацькаўшчыны!"

# НОВАЯ ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЯКСАНДРА І МАРЫІ СТАГАНОВІЧАЎ

У красавіку 2015 года была ўпершыню ўручаная Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў у галіне непрыдуманай літаратуры. Цяпер абвяшчаецца другі сезон гэтай прэміі.

Партнёрамі ў арганізацыі конкурсу і ўручэнні прэміі выступаюць: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", выдавецтва "Лімарыус". Прэмія мае быць уручана ў 2017 годзе за кнігі, надрукаваныя ў Беларусі на беларускай мове ў перыяд 2015–2016 гадоў.

На прэмію могуць быць вылучаны кнігі, напісаныя ў галіне непрыдуманай літаратуры (non-fiction) наступных жанраў:

– Мемуары, успаміны, дзённікі, эпісталярная спадчына (не толькі ўласныя, але і публікацыі чужых)
– Біяграфіі
– Травелогі (падарожныя нататкі)
– Дакументальная проза

Трох пераможцаў конкурсу вызначыць кампетэнтнае журы ў складзе:

– Літаратуразнаўца, сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук Ірына Багдановіч;
– Старшыня секцыі непрыдуманай літаратуры ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, сябра Управы ЗБС "Бацькаўшчына", галоўны рэдактар альманаха "Запісы БІНіМ", кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка;
– Сябра Управы ЗБС "Бацькаўшчына", загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валер Герасімаў;
– Сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў, кандыдат філалагічных навук Віктар Жыбуль;
– Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка;
– Пісьменнік, перакладчык, выдавец, сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтру Уладзімір Сіўчыкаў;
– Дырэктар выдавецтва "Лімарыус" Марына Шыбко.




Прэмія будзе падзеленая паміж трыма пераможцамі, кожны з якіх атрымае таксама дыплом і памятны медаль. Правам намінавання на прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў валодаюць як аўтары ці выдаўцы, так і члены журы конкурсу.

Пры вылучэнні кнігі на прэмію трэба да 31 студзеня 2017 г. перадаць у аргкамітэт папяровы і/ці электронны варыянт тэксту. Папяровыя выданні трэба прадстаўляць у Саюз беларускіх пісьменнікаў па адрасе: 220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31–906. Электронныя версіі выданняў можна дасылаць на адрас: sbp@lit-bel.org. Пры перадачы ці дасылцы кніг на прэмію трэба рабіць адмысловую пазнаку "Прэмія А. і М. Стагановічаў".

Тэл. для даведак: 8 (017) 200-80-91.



гутарка

# ШЧУРНЫ ІНТАРЭС

Ён піша па-беларуску, але ўжо амаль дваццаць год не быў на радзіме. Яго многа хто ведае, але мала хто бачыў. Міхась Пашкевіч сустрэўся з Максам Шчуром у Празе, каб даведацца, чым жыве пераможца прэміі Гедройца.

**– Якое гэта адчуванне – прачнуцца ранкам амаль у сваёй краіне, але з завершаным гештальтам?**

– Псіхалагічная стомленасць. Станоўчыя эмоцыі таксама вычэрпваюць.

**– Шмат віншавалі?**

– Нямала. І знаёмыя, і незнаёмыя. І ўсім трэба адказаць. Бо дзеля гэтага ўсё і рабілася. Каб людзі, якія фармуюць мой унутраны свет, усвядомілі, што дзякуючы ім я магу захоўваць повязь не толькі з месцам, але і з часам. З Беларуссю і тымі рэчамі, якія з ёй звязаныя. Раптоўна ўсё набыло нейкі сэнс. Праблемы, няўдачы, жыццёвыя няўвязкі як кавалкі пазла, склалі нарэшце карціну. Гэтае пачуццё цэласнасці я жадаю абсалютна кожнаму ў жыцці перажыць.

**– Ці чакаў ты, што вандроўка зацягнецца на амаль 20 год?**

– Мой ад'езд быў звязаны з палітычнай сітуацыяй, але я не хацеў прымаць ніякіх рашэнняў. Рашэнне прынялі за мяне пэўныя людзі ў пэўных структурах.

**– У адрозненне ад свайго героя, ты не ствараеш уражання няўдачніка. У цябе прыгожая жонка, нарадзілася дзіцё, ты інтэграваўся ў чэшскае грамадства, працуеш перакладчыкам.**

– Не трэба блытаць мяне і майго героя. Часта пішу ад першай асобы, але ніколі мае героі не з'яўляюцца мной. Я імі бываю, калі пішу, але гэта не тое самае. Некаторыя гэта так наўпростава і ўспрынялі, і я гэтаму рады, бо гэтак і хацеў. Правесці спробу рэканструяваць тып чалавека, якім я мог бы быць.

**– Паэт, пісьменнік, перакладчык – якое з тваіх абліччаў галоўнае?**

– Безумоўна, паэт.

**– Не было спробы пачаць пісаць па-чэшску?**

– Я напісаў дзве кнігі прозы па-чэшску, зараз акурат вырашаецца, ці ўдасца выдаць трэцюю. Вершаў па-чэшску не спрабаваў пісаць ніколі. Гэта абсалютна іншы лад мыслення. Мае тэксты, якія я перакладу з чэшскай на беларускую, мне здаецца, не прагучаць.

**– Твой раман звышсучасны ў плане закранутых тэмаў і самае першае – гэта ўцекачы. Цяжка не заўважыць тваю крытыку стаўлення чэшскага грамадства да іх. Не пабаішся перакладаць на чэшскую?**

– Апавяданні, што я зараз рыхтую па-чэшску, яшчэ больш жорсткія.

**– Твая жонка чэшка?**

– Яшчэ афіцыйна не жонка, але так, чэшка. Мы сустрэліся, калі разам вывучалі іспанамоўную літаратуру.

**– Яна нешта раіць Шчуру-паэту і перакладчыку?**

– Паэту – не. Але перакладчыку на чэшскую – абавязкова. Мы фактычна разам працуем над тым, як павінен выглядаць выніковы чэшскі варыянт. Але каб у працэсе самога пісьма – не. Я гэта раблю цішком, каб ніхто не бачыў, не замінаў, не дапамагаў. Гэта абсалютна інтымная рэч – пісьмо.

**– Якое яе стаўленне да Шчура-пісьменніка?**

– Ніхто вакол мяне не ходзіць на дыбачках. Яна ўспрымае мяне як звычайнага чалавека, які ўпаў ёй на галаву.

**– А пасля перамогі як сустрэла дома?**

– Святкавалі. Было агульнае адчуванне змоўніцкай радасці. Гэта ў прынцыпе наша супольная перамога, у якую з нас дваіх больш верыла яна.

**– Раз загаварылі пра дом. У Беларусь хочаш?**

– Хачу. Доўга не хацеў насамрэч. Мне хочацца да тых, хто мяне памятае і любіць. І я раблю намаганні, каб хутчэй сустрэцца. Перадусім хачу паехаць дзеля сваякоў. Покліч з'явіўся. З'ездзіць, каб аддаць даніну. Бо чалавек усё ж не гаспадар свайго лёсу. Калі б мне сказалі: "Ты ніколі ўжо не з'ездзіш у Беларусь", я б спалохаўся. Мець гэтую магчымасць вельмі важна. Покліч з'явіўся толькі нядаўна, калі нарадзілася дачка.

**– Не крыўдна, што радзіма пачынае любіць толькі праз узнагароды?**

– Беларусам вельмі хочацца мець добрае "сваё", але каб яно было кімсьці "завізаванае". Проста свайго мець не дастаткова. Гэта праблема, калі ў нас галоўная падзея – гэта нават не выхад кніжкі, а прэзентацыя. Літаратура, на жаль, часта ператвараецца толькі ў падставу для тусоўкі. Стварыць "школу пісьменніка", арганізацыю... Я гэтага не падзяляю, і ад такіх тусовак трымаўся б далей, нават калі б сто разоў быў у Беларусі. Гэта не значыць, што я не паважаю прэміі, якую атрымаў. Наадварот, мяне цешыць атрымаць яе ад такога складу журы, пры такіх мінулых лаўрэатах! І я ўдзячны за магчымасць трапіць у цэнтр увагі людзей, якія раней не маглі зайсці на сайт і нешта прачытаць, бо нашыя незалежныя медыя не паднеслі ім гэтага на сподачку.

**– Чаго чакаць ад цябе? Ёсць якія літаратурныя планы?**

– Мне вельмі хацелася б выдаць кніжку сваіх новых апавяданняў у Беларусі. Падобную да той кнігі, што выдаў у свой час Віталь Воранаў у Польшчы і якая таксама была ў доўгім спісе Гедройца, але далей не трапіла. Я ў прынцыпе аўтар больш кароткіх тэкстаў, якія ў нас цэняцца меней за так званыя "раманы". Калі аўтар гаворыць шэптам, яго не чуюць, дзеля гэтага трэба як след "гаркнуць". Ну вось я і гаркнуў, праз 10 гадоў пасля першага рамана: напісаў падкрэслена "актуальны" твор. Хаця, як ні парадаксальна, сучаснасць як тэма мяне не настолькі ўжо і цікавіць. Цяпер дзякуючы прэміі пайшло нейкае рэха. Наколькі яно адгукнецца ў выдаўцоў і чытачоў – пытанне адкрытае, і пытанне фактычна не да мяне.

**Міхась Пашкевіч, 34mag**
**Надрукавана ў скароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**

навіны

## КАСТРЫЧНІК У ЗАМЕЖЖЫ

### Беларусы ў Брукліне

Актывісты Бруклінскага аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ўзялі ўдзел у вулічным фестывалі Atlantic Antic, які праводзіцца штогод на Atlantic Avenue у нью-ёркскім раёне Бруклін.

### У Нью-Ёрку прэзентавалі "Беларус"

15 кастрычніка ў Нью-Ёрку у Міжнародным доме маракоў падчас пасяджэння Беларуска-амерыканскага задзіночання «Пагоня» адбылася прэзентацыя дзясятага, выпуску літаратурнага альманаха «Беларус». Свята сабрала больш за 70 чалавек. Адкрыў святочную імпрэзу выдавец і галоўны рэдактар Марат Клакоцкі. Сярод выступоўцаў – Вітаўт Кіпель, Віталь Зайка, Валянціна Якімовіч, Зянон Пазняк, Сяржук Сокалаў-Воюш.

### Дзяды ў Нью-Ёрку

30 кастрычніка беларусы Нью-Ёрка завіталі ў сабор Св. Кірылы Тураўскага, які знаходзіцца на Атлантык-Авеню ў Брукліне, на святочную службу і імпрэзу, прысвечаныя ўшанаванню памяці продкаў. Прысутныя слухалі паведамленне Наталлі Федарэнка, а таксама даклад Зянона Пазьняка пра масавае святкаванне Дзядоў у 1988 годзе, з якога пачаўся новы віток у гісторыі Беларусі.

### Цэнтр мовы і культуры ў Ісламабадзе

Цэнтр беларускай мовы і культуры адкрыўся ў Нацыянальным універсітэце сучасных моў Пакістана. Адным з напрамкаў дзейнасці цэнтра стануць падрыхтоўчыя курсы па вывучэнні беларускай і рускай моў.

### Сустрэча з Уладыславам Петруком

Уладыслаў Петрук быў госцем сустрэчы ў Цэнтры прамоцыі рэгіёна "Чарлёнка" ў Гайнаўцы. Мастак стварыў багаты архіў графікі, выкананай тушшу і пяром. Гэта адзін з найбольшых збораў мастацкай дакументацыі архітэктуры і краявіду Падляшша. Першы альбом мастака – збор карцін, якія паўсталі ў час працы ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы "Ніва". Каронай яго 30-гадовай працы, звязанай з Падляшшам, з'яўляецца альбом "Архітэктура і прырода Падляшскага ваяводства".

### Кветкі на магілу Касцюшкі

У 199-ю гадавіну з дня смерці лідара паўстання 1794 года, у швейцарскім Цухвіле адчынілі музей нацыянальнага героя Беларусі. 16 кастрычніка беларусы, амерыканцы, палякі і швейцарцы ўсклалі на магілу рэвалюцыянера кветкі.

Тадэвуш Касцюшка памёр 15 кастрычніка 1817 года ў хаце свайго сябра Франца Ксаверыя Цэлтнэра, знаходзячыся ў эміграцыі ў швейцарскім горадзе Золатурне. У 1818 годзе цела Касцюшкі перавезлі ў Кракаў, дзе змясцілі ў склепе ў Саборы Святых Станіслава і Вацлава. На могілках у Цухвіле да сёння застаюцца ўнутраныя органы Касцюшкі, якія былі вынятыя падчас бальзамавання. Асобна было пахаванае толькі сэрца: спачатку ў швейцарскім Раперсвіле, а потым ў капліцы Каралеўскага палацу ў Варшаве, куды яго перавезлі ў 1927-м.

**Паводле "Радыё Свабода"; Віктара Дударава, Святланы Казачок, "Наша Ніва"; Адама Завальні, "Беларускае Радыё Рацыя"; Міхаіла Мацеўскага, БЕЛТА; ДД, "Белсат"**

гутарка

# Пётр Мурзёнак: БУДАЎНІЦТВА НАЦЫЙ УСЁ ЯШЧЭ АДБЫВАЕЦЦА

У Атаве (Канада) адбылася прэзентацыя кнігі "Шляхі да беларускай нацы" Пятра Мурзёнка, старшыні Атаўскага аддзялення Згуртавання беларусаў Канады. Пётр Мурзёнак выдае вэб-часопіс "Культура. Нацыя", піша артыкулы на тэму праблемаў развіцця беларускай нацыі і дзяржаўнасці, якія і ўвайшлі ў зборнік. Гэта яго першая кніга публіцыстыкі, папярэднія тры былі зборнікамі паэзіі. І для Згуртавання "Бацькаўшчына" вельмі прыемна, што менавіта наша арганізацыя спрычынілася да выдання кнігі. Прапануем Вашай увазе гутарку з аўтарам пра яго шлях на эміграцыю, пра выклікі часу, якія паўстаюць перад беларускай нацыяй і дзяржавай, а таксама пра асаблівасці жыцця беларускай грамады ў Канадзе.


Алесь Каралькевіч

**– Ёсць тэорыі, якія сцвярджаюць, што час будавання нацый прайшоў: што можна было збудаваць, ужо збудавана. Ці згодныя Вы з гэтым? Як на Вашу думку, што ў свеце моцнай глабалізацыі чакае Беларусь і нашу мову?**

– Я з'яўляюся прыхільнікам ідэі аб тым, што будаўніцтва нацый усё яшчэ адбываецца. Усё залежыць ад волі супольнасцяў, якія саспелі, каб гэтым займацца. Ёсць аб'ектыўныя фактары, якія могуць дазволіць беларускай нацыі паўстаць роўнай сярод роўных у свеце: тысячагадовая гісторыя і культура этнасу, незалежнасць і суверэнітэт краіны, высокая этнічная аднароднасць насельніцтва, актыўная нацыянальная эліта, спрыяльныя знешнія фактары... З кожным крокам Беларусь набіраецца сілаў і, як паказвае мой аналіз, наступны перыяд для будаўніцтва нацыі павінен быць спрыяльным і, спадзяемся, вырашальным.

Не думаю, што глабалізацыя негатыўна паўплывае на развіццё і стан нацый. Сапраўды, можна казаць, што ў век глабальнай інфармацыйнай прасторы і глабальнага пранікнення капіталу, распаўсюджання ідэй дэмакратыі, палітычныя і эканамічныя сферы асобных краін збліжаюцца. Калі разглядаць Еўрапейскі Саюз, то ў ім шмат чаго зроблена – Шэнгенская віза, адзіная валюта, уздымаецца пытанне аб стварэнні адзіных узброеных сілаў, шмат прыхільнікаў мае ідэя стварэння еўрапейскай нацыі. Але, з іншага боку, ёсць і вялікая колькасць еўраскептыкаў, якія выступаюць за зберажэнне ідэнтычнасці нацый і іх умацаванне. Можна казаць, што рух да "глабалізацыі" і да нацыянальнай дзяржавы для Беларусі адбываюцца адначасова, і важна быць моцным "еўраскептыкам" і мець здольнасць ідэнтыфікаваць сябе як асобную нацыю, трымаць курс на нацыянальнае будаўніцтва. Небяспекай на гэтым шляху з'яўляецца заганны стан беларускай мовы. Гэта можа стаць катастрафічным фактарам паглынання Беларусі "рускім мірам". Умацаванне незалежнасці Беларусі ад Расіі з'яўляецца істотнай перадумовай будаўніцтва беларускай нацыі. Дасягнуць большага суверэнітэту можна праз умацаванне дэмакратычных і грамадскіх інстытутаў, праз выхаванне беларускасці ў насельніцтва Беларусі.

**– Гэтая Вашая чацвёртая кніга – публіцыстычная, тры папярэднія – паэтычныя. Ці варта ў будучым чакаць ад Вас мастацкай прозы?**

– Мне здаецца, што я не маю здольнасцяў, каб пісаць мастацкую прозу. Мне больш падабаецца выкладаць свае думкі ў канцэнтраванай, вершаванай форме. Я зайздрасціў свайму бацьку, настаўніку па адукацыі, які ў дзвюх кнігах – "Над Дзісенкай ракой" і "Адвечныя плыні" – па-мастацку адлюстраваў жыццё беларускай вёскі. Трэба сказаць, што бацька пачаў пісаць прозу ў семдзесят тры гады, калі прыехаў у Канаду. Калі раўняцца на бацьку, то, спадзяюся, буду яшчэ мець час падумаць і пра прозу.

**– Пасля эміграцыі Вы ўпершыню адведалі Радзіму толькі праз пятнаццаць гадоў, у 2013 годзе. У тым жа годзе запусцілі sakavik.net – пачалі рабіць часопіс. Якая сувязь паміж гэтымі падзеямі? Што з бачанага ў Беларусі паўплывала на гэта?**

– Вынікам майго візіту стаў артыкул "Беларусь. 2013. Спатканне з Радзімай". Там я падзяліўся з чытачамі ўражаннямі ад пабачанага. Сама паездка ніяк не паўплывала на тэматычны кірунак часопіса. Ідэя стварэння часопіса ўзнікла пасля канферэнцыі беларускіх лідараў у Вільні ў лістападзе 2012 года. Адной з маіх прапаноў тады было абмеркаванне рэалізацыі сумеснага асветніцкага праекта, які, як меркавалася, стаў бы адным з інструментаў працэсу аб'яднання беларускіх апазіцыйных сіл. Ідэя не знайшла падтрымкі і гэта падштурхнула мяне да рэалізацыі праекта з дапамогай вэб-сайта.

Часопіс выдаецца раз на тры месяцы. Выйшла пятнаццаць нумароў. Спачатку пад назвай "Сакавік", а пазней – "Культура, Нацыя". За тры з паловай гады апублікавана блізу сотні матэрыялаў, падрыхтаваных дваццаць адным аўтарам. Рэдакцыя часопіса ганарыцца тым, што больш за палову чытачоў часопіса – людзі з Беларусі.

**– Чаму ў пэўны момант адбылася змена назвы часопіса з "Сакавіка" на "Культура. Нацыя"? Ці паўплывала гэта на тэматыку?**

– Назва "Сакавік" была ўзятая як сімвал нашага слаўнага мінулага – 25 сакавіка была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Але ў чытачоў з-за такой назвы часта ўзнікалі асацыяцыі з нейкімі палітычнымі, рэвалюцыйнымі працэсамі. Часопіс жа грунтуецца на ідэях развіцця нацыі праз асвету насельніцтва краіны, галоўным стрыжнем якой ёсць культура. Назваць часопіс "Культура" не выпадала, бо ўжо быў заснаваны сп. Гедройцам часопіс з такой самай назвай, які адыграў значную ролю ў атрыманні свабоды Польшчай. Але мець сімвалічную духоўную пераемнасць ад часопіса Гедройца хацелася больш, чым быць абвінавачаным у плагіяце. І тады да назвы часопіса дадалося слова "нацыя". Змена назвы не паўплывала на тэматыку часопіса, аднак у будучыні хацелася б мець больш матэрыялаў па пытаннях менавіта культуры, бо цяпер большая частка матэрыялаў прысвечана нацыянальным праблемам.

**– Што прымусіла Вас, асобу ўжо сфармаваную, якая мае і навуковую пасаду, і сям'ю, з'ехаць за мяжу?**

– Асноўным матывам ад'езду ў 1998 годзе была бесперспектыўнасць. Аналіз сітуацыі падказваў мне, што чакаць змен да лепшага, беларускага, дэмакратычнага, можна будзе не раней, чым праз 40–50 год. Напалову мае прагнозы ўжо спраўдзіліся. Хтосьці можа сказаць, што такі ад'езд падобны да ўцёкаў, але вырашаць свой лёс, браць адказнасць за сям'ю – гэта права кожнага чалавека. Мы ехалі ў вялікую невядомасць. Палітычны кампанент пры ад'ездзе не быў вырашальным. Вядучымі былі словы: "Ніколі не позна пачаць спачатку". У сваё апраўданне магу сказаць, што тое, што я раблю для беларускай справы тут, я, верагодна, не змог бы рабіць на радзіме.

**– Як адбылося Вашае знаёмства з беларускай грамадой Канады?**

– Знаёмства з беларускай грамадой Атавы адбылося праз год нашага жыцця ў гэтым горадзе. Расчараванне ў стане беларускага грамадства, якое я меў пры ад'ездзе, не выклікала ніякага жадання нават пошуку магчымасці такой сустрэчы. Тым не менш, мы з Наталіяй, маёй жонкай, улетку 1999 года трапілі на беларускі сход, які ладзіў у сваім доме сп. Міхайлаў, тагачасны лідар групы беларусаў. Тамсама мы пазнаёміліся са сп. Івонкай Сурвіллай... Можна казаць, што ў Атаве ўтварылася цеснае кола беларусаў, якія сябруюць і падтрымліваюць беларускі дух – гэта было яскрава прадэманстравана падчас арганізацыі і правядзення 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

**– Вы на працягу пяці гадоў былі старшынёй Згуртавання беларусаў Канады, Атаўскі аддзел узначальваеце і цяпер. Што з сябе ўяўляе беларуская грамада Канады сёння? Ці пашыраецца супольнасць? Ці ўяўляе беларуская ідэя цікавасць для эмігранцкай моладзі ў Канадзе?**

– Паводле статыстыкі, у 2011 годзе ў Канадзе налічвалася каля 15 000 беларусаў, з іх каля 1000 у Атаве і каля 7000 у Таронта. Дынаміка такая, што ў гэтым годзе чарговы перапіс насельніцтва пакажа лічбу каля 20 000. Актыўныя беларускія суполкі дзейнічаюць на сёння толькі ў Таронта і Атаве. Беларуская суполка ў Атаве налічвае каля 30–60 чалавек. Такі стан цалкам адпавядае статыстыцы, згодна з якой у грамадскім жыцці бярэ ўдзел малая частка людзей – 5–10%. Асноўная частка суполкі склалася каля 12–15 гадоў таму. Новыя людзі да нас таксама далучаюцца, у асноўным яны нацыянальна свядомыя, сямейныя, але моладзі студэнцкага ўзросту, якую можна назіраць, напрыклад, у Нью-Ёрку, не шмат.

**Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"**

**Надрукавана ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

гутарка

# «ЖЫВЕМ ЦІКАВА, ШМАТ ЧАГО АДБЫВАЕЦЦА». БЕЛАРУСЫ МАЛДОВЫ НА «БАЦЬКАЎШЧЫНЕ»

На пачатку ліпеня сядзібу ЗБС "Бацькаўшчына" наведалі прадстаўнікі беларусаў Малдовы: старшыня Праўлення Беларускага культурнага руху Малдовы Ганна Мазур і старшыня Міжнароднага таварыства сяброўства і супрацоўніцтва "Малдова–Беларусь" і Асацыяцыі беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь" Генадзь Зяньковіч. Прапануем да вашай увагі гутарку пра немалыя дасягненні беларускай дыяспары ў неспрыяльных эканамічных умовах.



Алена Макоўская, Генадзь Зяньковіч, Ніна Шыдлоўская, Ганна Мазур

**Ганна Мазур:** Жывем цікава, шмат чаго адбываецца. Увосень у Малдову пасля дзесяцігадовага перапынку вярнуліся Дні культуры Беларусі. Адбылася сустрэча Міністра культуры Беларусі Барыса Святлова з кіраўнікамі грамадскіх аб'яднанняў беларускай дыяспары ў Малдове. У Нацыянальнай філармоніі быў адчынены вернісаж габеленаў беларускіх майстроў і праведзены канцэрт ансамбля народнай музыкі "Свята".

**Генадзь Зяньковіч:** У траўні быў афіцыйны візіт дэлегацыі Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце міністраў Беларусі разам з прадстаўнікамі Кансультацыйнага міжэтнічнага савета. У Доме нацыянальнасцяў Малдовы прайшоў круглы стол "Сучасныя рэаліі і перспектывы міждзяржаўнага супрацоўніцтва ў галіне міжэтнічных адносін", а пасля – канцэрт.

**– Міністэрства культуры і Упаўнаважаны маюць праграмы для дыяспары, але з беларусамі замежжа цяпер больш працуе Міністэрства замежных спраў…**

**ГМ:** У верасні 2014 года быў утвораны Кансультацыйны савет па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў Беларусі. У склад яго ўвайшлі тры кіраўнікі беларускіх аб'яднанняў з Малдовы.

**– Беларусы Малдовы заўсёды актыўна супрацоўнічаюць з Пасольствам Рэспублікі Беларусь...**

**ГМ:** Беларуская амбасада аказвае нам маральную падтрымку, а матэрыяльнай мы пакуль не маем. Але каб годна глядзецца побач з іншымі этнасамі, матэрыяльная дапамога проста неабходная. Было б вельмі дарэчы, каб па прыкладзе іншых дыпламатычных прадстаўніцтваў Пасольства таксама мела магчымасць матэрыяльна дапамагаць землякам.

**ГЗ:** Самім пацягнуць арганізацыю буйнога мерапрыемства вельмі цяжка. Радуемся, калі нам строямі, падручнікамі дапамагаюць... У снежні мінулага года пры Пасольстве пасля трохгадовага перапынку аднавілася Каардынацыйная рада грамадскіх аб'яднанняў беларускай дыяспары Малдовы – на сёння афіцыйна зарэгістравана дзесяць такіх структур.

**– А ці мае ўрад Малдовы нейкія праграмы падтрымкі нацыянальных меншасцяў?**

**ГМ:** Ёсць пералік дзяржаўных мерапрыемстваў. Улады выдзяляюць пляцоўку, просяць падрыхтаваць нумары, выбіраюць асобныя і зацвярджаюць праграму. Увосень у Цэнтральным парку ладзіцца Рэспубліканскі этнакультурны фестываль – даюць магчымасць выставіць стэнд, дэманстраваць строі, частаваць гасцей нацыянальнымі стравамі... За кошт дзяржаўных сродкаў этнасы атрымліваюць пляцоўку, на якой, як той казаў, можна і сябе паказаць, і на іншых паглядзець. Але выдаткі, звязаныя з пастаноўкай нумароў, інсталяцыямі, шматлікімі арганізацыйнымі момантамі, мы пакрываем сваімі сродкамі, а яны патрабуюцца немалыя, каб годна выглядаць на падобных святах.

**ГЗ:** Калі нам неабходна памяшканне, Бюро міжэтнічных адносін нам яго бясплатна вылучае. Зараз чакаем адкрыцця Беларускага культурнага цэнтра. Ужо два гады нам яго абяцае адчыніць беларуска-малдаўскае прадпрыемства "Керамін-Груп". І прэзідэнт Беларусі, і міністр культуры прыязджалі, аглядалі памяшканне… Можа штосьці з гэтага і будзе.

**ГМ:** У гэтым годзе змянілася кіраўніцтва Бюро міжэтнічных адносін – органа, які прасоўвае дзяржаўную палітыку ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў. Генеральны дырэктар сп. Алег Бабенка паабяцаў Беларускаму культурнаму руху Малдовы памяшканне ў будынку Бюро.

**ГЗ:** На нацыянальным радыё ў Галоўнай рэдакцыі перадач для нацыянальных мяншыняў я раблю перадачу "Беларуская крыніца". Гэтая перадача – наш гонар. На нацыянальным радыё беларуская мова не гучыць нідзе ў СНД.

**– І колькі ж чалавек слухае вашую перадачу?**

**ГЗ:** Нашая аўдыторыя – прыкладна пяць тысяч беларусаў, украінцы… Мы таксама рассылаем гатовыя праграмы на некалькі сотняў адрасоў праз інтэрнэт.

**– Ганна, распавядзіце, калі ласка, пра свой тэатр "Куфар", як ён з'явіўся, што за нумары вы ставіце на згаданых святах?**

**ГМ:** У 2012 годзе ў мяне з'явілася ініцыятыва: правесці інтэрактыўны спектакль "у хатнім фармаце" на беларускай мове паводле зімовага абраду Каляды. Так на свет з'явіўся наш першы спектакль – "На Каляды". Усіх удзельнікаў "зачапіла", і практыка займела працяг: "Туканне Вясны" ў 2013 годзе, "Вясновы кліч" і "Калядное свята" ў 2014 годзе. Гэты досвед выспеліў ідэю аб стварэнні этнічнага тэатра. У пачатку 2015 года нарадзіўся народны беларуска-малдаўскі этнічны тэатр "Куфар/Cufăr". Наш тэатр – актыўны ўдзельнік усіх мерапрыемстваў, якія праводзіць Бюро міжэтнічных адносін на самых вялікіх сцэнах краіны. Мы робім паэтычныя замалёўкі з музычным суправаджэннем, падаем гэта ў адмысловай форме. На 25-годдзе Бюро мы на сцэне нацыянальнага тэатра "Mihai Eminescu" ладзілі выступ пад назвай "Мая Беларусь" на вершы Янкі Купалы, Петруся Броўкі і іншых нашых класікаў, а на Днях славянскага пісьменства і культуры ў Тэатры оперы і балета прэзентавалі замалёўку "Мая мова". Малдаўская публіка вельмі добра ўспрымае беларускую паэзію. Нашыя суполкі не могуць пахваліцца ні масавасцю, ні наяўнасцю вялікай колькасці касцюмаў, і я знайшла нішу: беларуская паэзія.

**– А малдаване хоць разумеюць пра што вершы? Хто іх перакладае на малдаўскую мову?**

**ГМ:** На мерапрыемствах, што ладзім самі, камбінуем беларускую мову з малдаўскай. А падчас дзяржаўнага мерапрыемства гучыць толькі беларуская мова, бо нашая задача – паказаць этнас. У траўні на Днях славянскага пісьменства і культуры мы знаёмілі малдаўскую публіку з вершамі Генадзя Бураўкіна і Яўгеніі Янішчыц, дэманстравалі старонкі помнікаў беларускага пісьменства. Мы імкнемся рознымі метадамі спрыяць, каб быў зразуметы агульны сэнс. У канцы мерапрыемстваў да нас падыходзяць розныя людзі, кажуць словы падзякі, віншуюць з творчымі знаходкамі. Гэта для нас вельмі важна.

**ГЗ:** Беларуская мова і літаратура – невычэрпная крыніца натхнення для беларусаў замежжа. Я сам скончыў БДУ, вучыўся, дарэчы, на адным курсе з Яўгеніяй Янішчыц, жыў у адным пакоі з Іосіфам Сярэдзічам… Колькі цудоўных успамінаў адразу прыйшло... Я і Васіля Быкава ведаў, бо бываў у рэдакцыі "Гарадзенскай праўды", дзе ён тады працаваў. Прынёс яму аднойчы артыкул пра вайну, ён спытаўся толькі, ці ваяваў мой бацька, пачуў станоўчы адказ, а пасля моўчкі дастаў з-пад стала свой двухтомнік і падпісаў яго мне. Анатоля Бутэвіча ведаю, міністра культуры... Рэдактара "Советской Белоруссии" Ігара Асінскага, з ім мы часам нават перапісваемся. Да класікаў беларускай літаратуры амаль заўсёды звяртаюся падчас стварэння радыёперадачы "Беларуская крыніца". На развітанне хочацца выказаць словы вялікай удзячнасці ЗБС "Бацькаўшчына" за вельмі гасцінны прыём, за падарункі, за Вашу рэгулярную і шматгранную падтрымку беларускай дыяспары, за ўсё тое, што робіце для беларусаў замежжа...

**ГМ:** Ад усяго сэрца шчыра жадаем "Бацькаўшчыне" далейшых поспехаў на няпростым шляху... "Па бездарожжы" ўпэўнена пратоптвайце для нас "сцежкі" і пракладайце патрэбныя "трасы". Мы заўсёды рады браць удзел у Вашых мерапрыемствах. І запрашаем у госці да нас, у сонечную Малдову...

**Надрукавана ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

навіны

# КАСТРЫЧНІК У ЗАМЕЖЖЫ

## Горад чулы да беларушчыны

Ва Уроцлаве скончыўся Фестываль незалежнай беларускай культуры. Цягам мінулага тыдня жыхары Уроцлава мелі магчымасць пазнаёміцца з беларускімі артыстамі, мастакамі ды паэтамі. Гэткае свята беларушчыны праводзіцца ў сталіцы Ніжняй Сілезіі ўжо восьмы раз.

## Культурны цэнтр у Кішынёве

Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў 2 кастрычніка адкрыў Беларускі культурны цэнтр у Кішынёве – ён размясціўся ў цэнтры продажу "Керамін Гранд – Чэраміка". Для напаўнення Беларускага культурнага цэнтра выкарыстаныя матэрыялы, перададзеныя Міністэрствам культуры і Міністэрствам інфармацыі Беларусі. Зараз, з улікам святкавання ў 2017 годзе 500-годдзя пачатку беларускага кнігадрукавання, прапрацоўваецца пытанне ўстаноўкі бюста Францыска Скарыны ля аднаго з уваходаў у будынак цэнтра "Керамін Гранд – Чэраміка".

## Гурт «Жэмэрва» ў Пецярбургу

Гурт "Жэмэрва", які ўжо 13 гадоў існуе пры Музэі Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах (Польшча) і складаецца з 10 асобаў маладых дзяўчаты і хлопцаў, вучняў бельскіх школаў, прэзэнтаваў традыцыйны фальклёр беларусаў Падляшша на конкурсе народнага песеннага мастацтва "Как на речке было на Фонтанке", які праходзіў ад 24 да 29 кастрычніка ў Пецярбургу.

**Паводле Яраслава Іванюка, "Беларускае Радыё Рацыя"; БЕЛТА**

# ВІНШУЕМ АНАТОЛЯ ВЯРЦІНСКАГА!

18 лістапада юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» Анатоль Вярцінскі (Беларусь). Сардэчна віншуем шаноўнага спадара Анатоля з юбілеем і зычым моцнага здароўя, творчага натхнення і поспеху ва ўсіх справах!

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны

# ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛАТВІІ

## Дагда

Беларускае таварыства "Вербіца" правяло святочнае мерапрыемства ў гонар 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Вечарыну 15 кастрычніка адкрылі консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Дзмітрый Канстанцінаў, старшыня Дагдскай краявой Думы Сандра Вішкурэ, старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова і член Кансультатыўнага камітэта прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый нацменшасцей Міністэрства культуры Латвіі, старшыня Беларускага таварыства "Прамень" Алена Лазарава.

Паэт Станіслаў Валодзька чытаў вершы, прысвечаныя Багдановічу. Прысутныя слухалі песні ў выкананні Ганны Крупскай і Паўла Прозара, глядзелі выступы ансамбляў "Вярба" (кір. Ларыса Тукіша), "Узоры" (Ліваны, кір. Яна Юзэфовіч). "Купалінка" (Даўгаўпілс, кір. Вячаслаў Пятроў), "Лянок" (кір. Марына Медуніцкая) і "Аколіца" (кір. Тамара Старавойтава).

## Ліепаі

1 кастрычніка ў зале Ліепайскага універсітэта сабралася шмат гасцей беларускай абшчыны "Мара".

Адкрыла вечарыну старшыня таварыства Тамара Шульц, якая цёпла прывітала прысутных са святам, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Пасля выступілі віцэ-мэр г. Ліепаі Юрый Хадаровіч, старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова, сябар праўлення Саюза беларусаў Латвіі і старшыня беларускай суполкі "Прамень" Алёна Лазарава. Старшыня таварыства ваенных пенсіянераў В.А. Волкаў адзначыў, што свята беларускай культуры – не чужое для ліепайчан.

Вядучая Таццяна Маскалевіч знаёміла аўдыторыю з жыццевым і творчым шляхам Максіма Багдановіча, вучні 7-й ліепайскай школы чыталі вершы. З народнымі песнямі выступіў слонімскі ансамбль "Грамада" (кір. Валянціна Шэранава).

**Паводле Алёны Міцкевіч, "Прамень"**

навіны

# БЕЛАРУСЫ МАЛДОВЫ НА ФЕСТЫВАЛІ «АДЗІНСТВА ПРАЗ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ»

З 16 па 25 верасня ў Малдове праходзіў Рэспубліканскі этнакультурны фестываль "Адзінства праз разнастайнасць". Мэта фэста – развіццё міжкультурнага дыялогу ў кантэксце вектара еўрапейскай інтэграцыі Малдовы. Урачыстае адкрыццё адбылося ў парку "Ștefan cel Mare și Sfânt" з удзелам кіраўніцтва краіны, дыпламатаў і прадстаўнікоў этнакультурных арганізацый, акрэдытаваных пры Бюро міжэтнічных адносін і мэрыі Кішынёва.

Беларускі культурны рух Малдовы прадставіў экспазіцыю "Культурная спадчына Беларусі". Таварыства дружбы і супрацоўніцтва "Малдова–Беларусь" і Асацыяцыя беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь" парадавалі гасцей беларускімі народнымі песнямі і выкананнем твораў сусветнай класікі.

У фестывалі ўзялі ўдзел сорак пяць этнакультурных арганізацый, якія прадставілі чатырнаццаць этнічных груп.

**Паводле Ганны Мазур, старшыні Праўлення ГА «Беларускі культурны рух Малдовы»**

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІСТАПАД 2016 ГОДА

3 лістапада – 75 гадоў таму, у 1941-м, памёр Змітрок Бядуля, пісьменнік, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху.

4 лістапада – 200 гадоў таму, у 1816-м, нарадзіўся Арцём Вярыга-Дарэўскі, пісьменнік, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на Віцебшчыне.

6 лістапада – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Іосіф Воўк-Левановіч, мовазнавец.

7 лістапада – 130 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Генрык Бэта, каталіцкі святар, пісьменнік.

7 лістапада – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Міхась Чарот (сапр. Кудзелька), паэт, грамадска-культурны дзеяч.

10 лістапада – 165 гадоў таму, у 1851-м, памёр Ян Ходзька (Барэйка), пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

12 лістапада – 360 гадоў таму, у 1656-м, памёр Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, гісторык, мемуарыст.

13 лістапада – 180 гадоў таму, у 1836-м, нарадзіўся Яраслаў Дамброўскі, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

14 лістапада – 30 гадоў таму, у 1986-м, памёр Мікола Улашчык, гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар.

17 лістапада – 110 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Янка Багдановіч, пісьменнік, мемуарыст.

20 лістапада – 115 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Міхась Зарэцкі (сапр. Касянкоў), пісьменнік.

22 лістапада – 180 гадоў таму, у 1836-м, памёр Якуб Фалькоўскі, педагог, тэолаг, літаратуразнавец.

23 лістапада – 145 гадоў таму, у 1871-м, нарадзіўся Уладзімір Тэраўскі, кампазітар, харавы дырыжор, фалькларыст.

23 лістапада – 110 гадоў таму, у 1906-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Наша Ніва".

26 лістапада – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Янка Станкевіч, грамадска-культурны дзеяч, мовазнавец, гісторык, перакладчык, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

26 лістапада – 120 гадоў таму, у 1896-м, памёр Канстанцін Ельскі, падарожнік, заолаг, географ, геолаг.

27 лістапада – Слуцкі збройны чын.

27 лістапада – 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Уладзімір Тарасевіч, рэлігійны і грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.

30 лістапада – 425 гадоў таму, у 1591-м, нарадзіўся Андрэй Баболя, рымска-каталіцкі дзеяч, місіянер, святы.

# СМУТКУЕМ З НАГОДЫ СМЕРЦІ ЛЯВОНА ШАКАЎЦА

24 кастрычніка 2016 года пайшоў з жыцця Лявон Шакавец, сябра праўлення Беларускага таварыства "Прамень" (Латвія) і Саюза беларусаў Латвіі, галоўны рэдактар газеты беларусаў Латвіі "Прамень" (ад 1994 года).

Працуючы ў газеце, рэгулярна беручы ўдзел у імпрэзах таварыства "Прамень", выступаючы ў складзе ансамбля "Надзея", спадар Лявон спрыяў пашырэнню беларускай культуры і захаванню нацыянальных традыцый.

За плённую працу па развіцці беларускага друку ў Латвіі Лявон Шакавец у 2004 годзе быў узнагароджаны Ганаровым знакам "Выдатнік друку Беларусі", у 2005 – Ганаровай граматай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь, у 2006 годзе – медалём Францыска Скарыны.

Смуткуем і выказваем шчырыя спачуванні родным і сябрам спадара Лявона Шакаўца. Вечная яму памяць!

**Управа МГА "ЗБС «Бацькаўшчына»"**



**Беларусы ў свеце**
№ 10 (173), кастрычнік 2016
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27